# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Аўторак, 12 кастрычніка 1993 года | № 118 (10669) | Цана 20 руб.


## ЛЕПШ ДРЭННА ЕХАЦЬ, ЧЫМ ДОБРА ІСЦІ

**Год назад у рэспубліцы было створана Міністэрства транспарту і камунікацый, якое аб"яднала ў адзіную сістэму аўтамабілістаў, авіятараў і работнікаў чыгункі. Днямі ў аблвыканкоме адбылася нарада службаў, што забяспечваюць і абслугоўваюць транспартную сувязь Міншчыны.**

Міністр Сцяпан Шкапіч прааналізаваў становішча, якое склалася ў транспартным комплексе пасля распаду Саюза.

-- Значную частку ўсіх рэсурсаў транспартнікі атрымлівалі з Расіі і на Украіне. З-за размежавання саюзных рэспублік Беларусь вымушана знаходзіць свае ўласныя, --адзначыў Сцяпан Ільіч.-- Матэрыяльна-тэхнічная база рэспублікі дазваляе наладзіць вытворчасць запасных частак для ўсіх відаў аўтамабіляў, выпуск дзвюх мадэлей аўтобусаў, а таксама арганізаваць капітальны рамонт венгерскіх "Ікарусаў" /на што зараз ідзе 40 працэнтаў інвалютных расходаў/ і электрапаяздоў. Ствараецца рамонтная база ўсіх відаў самалётаў. Плануецца ў хуткім часе пераход транспартных сродкаў з карбюратарных рухавікоў на дызельныя. Пад гэтыя праграмы дзяржава выдзяляе мільённыя крэдыты.

Асноўны цяжар праблем выпаў на пасажырскія перавозкі. Па вобласці скараціліся на 17 працэнтаў рэйсавыя маршруты, што недапушчальна. Прыгарадная зона павінна абслугоўвацца калі не на высокім узроўні /па 5--6 рэйсаў на дзень у пэўную вёску/, то хаця б здавальняюча. На гэтыя мэты грашовых датацый хапае. Іншая справа, што фінансы расходуюцца не па прамому прызначэнню.

Машынны парк моцна зношваецца і своечасова не абнаўляецца. Высокія цэны на новыя аўтамабілі спустошаць касу любога аўтапарка. І як можа быць транспартная сетка прыбытковай, калі 80 працэнтаў насельніцтва вобласці карыстаюцца яе паслугамі амаль бясплатна. Ільготныя тарыфы, катэгорыі павінны кампенсавацца прадпрыемствамі, якія выдаюць такія дакументы.

-- Наспела пытанне аб стварэнні прынцыпова новай мадэлі фарміравання даходаў на транспарце, -- падкрэсліў міністр. -- А таксама арганізацыі рынку транспартных паслуг. Напрыклад, у Літве палавіна пасажырскага і грузавога транспарту прыватызавана. Усе сродкі камунікацый там працуюць прыбыткова.

У нас жа прыносяць даходы толькі міжнародныя авіярэйсы і Беларуская чыгунка. Таму большасць пытанняў С.І.Шкапічу задалі аўтамабілісты.

Дырэктар слуцкага аўтапарка № 2 Аляксандр Кудзёлка заявіў, што на справе пасажырскія перавозкі дастаткова не забяспечваюцца бюджэтам. У верасні толькі трэць маршрутных аўтобусаў выходзілі на лінію, таму што парк па два тыдні не атрымліваў ні грама паліва і гаруча-змазачных матэрыялаў.

-- І нават калі ёсць грошы, знайсці паліва ўсё роўна складана, -- падтрымаў калегу Аляксандр Шкрэдаў /аўтапарк № 3 г.Барысава/.

У Стаўбцоўскім, Мядзельскім, Бярэзінскім раёнах транспартная сетка аўтобусных маршрутаў склалася так, што трэцяя частка іх прыпадае на міжгароднія. Рэйс з райцэнтра да аддаленай вёскі выконваецца па дарагой катэгорыі. Гэта абсурд! Патрэбны перагляд градацыі маршрутаў, інакш іх давядзецца ліквідаваць. А як жа пасажыры?

Міністр транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь запэўніў: усе гэтыя пытанні ўзяты пад увагу і будуць тэрмінова разгледжаны міністэрствам.

Наталля ШМІДТ.



*Іван Альфонсавіч КАЛОСКА працуе ў калгасе "Зарэчча" Уздзенскага раёна. Ніякай работы ён не цураецца: можа з сеялкай і з плугамі працаваць, на касьбе траў і з прэс-падборшчыкам, капалкай, буртаўкладчыкам. Цяпер механізатар шчыруе на бульбяных палетках.*

Фота Міхаіла БУЛАТА.

**ФАКТЫ ПАДЗЕІ АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ**

## РАШЭННЕ КАМІСІІ

*У Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь адбылося пасяджэнне Пастаяннай камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека. Разгледжана пытанне "Дзяржаўны суверэнітэт, канстытуцыйная законнасць і сродкі масавай інфармацыі". Камісія адзначыла, што дзейнасць значнай часткі сродкаў масавай інфармацыі рэспублікі, у тым ліку і дзяржаўных, носіць нелаяльны характар у адносінах да дзяржаўнасці і суверэнітэту Беларусі.*

*У пастанове, прынятай камісіяй, прызнана неабходным скасаваць Упраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязей, аддзел друку, радыё і тэлебачання Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, паколькі гэтыя структуры дубліруюць функцыі рэспубліканскага Міністэрства інфармацыі і Нацыянальнага прэс-цэнтра. Міністэрству інфармацыі прапанавана разгледзець мэтазгоднасць знаходжання на сваёй пасадзе старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі А.Р.Сталярова.*

Прэс-служба Вярхоўнага Савета Беларусі.

■ Ідзе падпіска

## ЛЕПШЫМ ПРАЦАЎНІКАМ – 50 ЭКЗЕМПЛЯРАЎ "МІНСКАЙ ПРАЎДЫ"

***Загадчыца Янавіцкага аддзялення сувязі Клецкага раёна Галіна Вячаслаўна Апанасевіч задаволена ходам падпіскі на першы квартал будучага года. Ёсць усе падставы спадзявацца, што падпісная кампанія пройдзе паспяхова. Людзі ахвотна выпісваюць абласную газету, раённую, рэспубліканскія выданні.***

***Клопатаў, безумоўна, хапае. Не паспееш афарміць падпіску на першы квартал, як трэба ўжо думаць пра другі. Выручае энтузіязм работнікаў паштовага аддзялення. Яны вопытныя, дасканала ведаюць запатрабаванні падпісчыкаў, умеюць дайсці літаральна да кожнага жывёлавода, палявода, механізатара.***

***Лістаносец Галіна Аляксандраўна Уборская абслугоўвае жыхароў вёсак Янавічы і Бабаевічы вось ужо 32 гады. Само сабой зразумела: багаты вопыт вельмі дапамагае выконваць службовыя абавязкі.***

***Адна перад адной завіхаюцца і яе сяброўкі Лілія Мікалаеўна Дамарацкая і Валянціна Антонаўна Апанасевіч.***

***Герой Сацыялістычнай Працы, дырэктар дзяржплемзавода "Чырвоная зорка" І.І.Плаўскі /на тэрыторыі гэтай гаспадаркі знаходзіцца Янавіцкае аддзяленне сувязі/ зазначае:***

***"Дырэкцыя і прафсаюзны камітэт племзавода вырашылі ўзнагародзіць квартальнай падпіскай на "Мінскую праўду" 50 лепшых працаўнікоў гаспадаркі".***

***Хочацца выказаць Іосіфу Іосіфавічу Плаўскаму і старшыні прафсаюзнага камітэта племзавода Мікалаю Андрэевічу Горбачу шчырую падзяку за прыхільнасць да абласной газеты.***

Алесь БЯРЖЫНСКІ.

## КАЛІ ЗАКОНЧЫЛІСЯ "БАІ"

"Праціўнік", які нечакана парушыў "дзяржаўную граніцу", нанёс сканцэнтраваны ўдар па абарончых парадках асобнай механізаванай брыгады генерал-маёра Анатоля Нікіціна. Нарошчваючы сілы на напрамках блізкага поспеху, ён прымусіў падраздзяленні брыгады адыходзіць...

З гэтых дзеянняў умоўных праціўнікаў пачаўся завяршальны этап тактычнага вучэння 11-й асобнай мотастралковай брыгады Узброеных Сіл Беларусі, якое праходзіла непадалёку ад Баранавічаў пад агульным кіраўніцтвам камандзіра 28-га армейскага корпуса генерал-маёра Леаніда Мальцава.

За ходам тактычнага вучэння назіралі ваенныя аташэ Польшчы, ЗША, Францыі, памочнікі ваенных аташэ Вялікабрытаніі і ФРГ, ваенныя прадстаўнікі Украіны, Латвіі, Літвы.

Міністр абароны рэспублікі генерал-палкоўнік Павел Казлоўскі канстатаваў: першыя даныя праверкі па выніках 1993 года паказваюць, што абучэнне войск вялося на больш высокім, чым у папярэднія гады, узроўні. Апраўдвае сябе і прынятая сістэма камплектавання Узброеных Сіл на брыгаднай аснове. Гэта пацвярджаюць вынікі праведзеных у некаторых брыгадах вучэнняў, у ходзе якіх унесена нямала ўдасканаленняў, накіраваных на павышэнне боегатоўнасці як гэтых воінскіх злучэнняў і аб'яднанняў, так і ўсёй беларускай арміі ў цэлым.

Пасля завяршэння вучэння яго ўдзельнікі вяртаюцца да месц пастаяннай дыслакацыі.

Леанід ТРАЦЭЎСКІ, БЕЛІНФАРМ.

☐ Весткі з Клеччыны

### РЫШТАВАННІ Ў ВЁСКАХ

Кожнаму вядома, што сёння надзвычай дарагія будматэрыялы. Звычайная цагліна "цягне" на 60-80 рублёў. І ўсё ж у племзаводзе "Чырвоная зорка" не апускаюць рук, узводзяць вытворчыя і сацыяльна-бытавыя аб"екты. Не так даўно здадзены ў эксплуатацыю два чатырохкватэрныя дамы. У іх справілі наваселлі энергетык А.Шыбут, інжынер У.Малышка, С.Канановіч, М.Мардаш і іншыя працаўнікі.

Грашовыя сродкі гаспадарка "знаходзіць" за кошт высокай аддачы зямлі /атрымана сёлета звыш 60 цэнтнераў збожжа з гектара/ а таксама інтэнсіўнага развіцця жывёлагадоўлі.

Будаўнічыя рыштаванні можна ўбачыць у калгасах "Камунар", "Кастрычнік", "Сцяг Саветаў" і іншых гаспадарках.

### А ШТО ПАД ПРЫЛАЎКАМ?

Заастравецкае сельпо абслугоўвае 29 вёсак. Выканком раённага Савета народных дэпутатаў разгледзеў на сваім пасяджэнні "вузлавыя" пытанні гандлёвага абслугоўвання насельніцтва. Адзначана, што ёсць выпадкі завышэння цэн і прыхоўвання прадуктаў у магазіне вёскі Урвядзь. Хранічнымі сталі недастачы пры інвентарызацыі грашова-матэрыяльных сродкаў. Слаба арганізавана работа па забеспячэнню інвалідаў і пенсіянераў неабходнымі таварамі і прадуктамі.

Намечаны канкрэтныя меры па ліквідацыі недахопаў. У прыватнасці, у сельпо накіраваны шэраг маладых прадаўцоў, праводзіцца рамонт магазінаў, узмоцнены кантроль за іх працай з боку райспажыўсаюза.

### МОЖА, СКІНУЦЦА "ПА ЗАЙЧЫКУ"?

У свой час на долевай аснове быў пабудаваны піянерскі лагер каля вёскі Колкі. Цудоўнае тут месца: лес, побач возера, шмат летам грыбоў і ягад. Цяпер "лунае" думка, каб у зімовы час арганізаваць тут пансіянат для вяскоўцаў. Было б, вядома, цудоўна. Але ж будаўніцтва кацельні, іншых інжынерных камунікацый /у першую чаргу для забеспячэння жылых карпусоў цяплом, гарачай вадой/ патрабуе вялікіх сродкаў.

Аднаму калгасу ці саўгасу гэты "воз" не пацягнуць. Дык, можа, зноў шэраг гаспадарак скінуцца "па зайчыку" ды вырашаць гэтую праблему?

### ХАВАЙСЯ, ВЕПРУЧОК

Злачыннасць у раёне набывае ўсё большы размах. Асабліва шмат выпадкаў крадзяжу грамадскай і асабістай маёмасці. Пад покрывам ночы знікаюць матацыклы, веласіпеды.

У апошні час пачасціліся выпадкі, калі "без шуму ды віску" забіраюць з хлявоў вепрукоў вагой 150--200 кілаграмаў. Напрыклад, у вёсках Машукі, Яновічы, Забалотнікі...

Згадзіцеся, вельмі складана "запіхнуць" у мех і пагрузіць у аўтамашыну такі "багаж". Злачынцы не злоўлены. Ёсць падазрэнне, што карыстаюцца яны газавымі балончыкамі ці іншымі хітрымі сродкамі.

### З КАЛГАСНАЙ "КІШЭНІ"

Меліяратары ПМК-78 даказваюць справай, што іх яшчэ рана спісваць з "рахунку". Вядома, ужо дзяржава не выкладвае са сваёй кішэні мільёны рублёў. Таму калгасы і саўгасы вельмі асцярожна выбіраюць месцы для асушэння, каб пабудаваць неабходныя аб"екты. Сёлета здадзены з адзнакай "добра" аб"ект у калгасе "Савецкая Беларусь", вядзецца будаўніцтва вадасховішча ў калгасе "Шлях да камунізму". У разгары работы на меліярацыйных землях у калгасе "Прагрэс".

Толькі за апошнія месяцы ПМК-78 выканала падобных работ у сваім раёне і ў суседнім -- Капыльскім амаль на 200 мільёнаў рублёў.

### ПРОБА ПЯРА

Літаратурнае аб"яднанне пры раённай газеце "Да новых перамог" працуе ўжо не першы год. Мясцовыя паэты і празаікі спрабуюць свае творчыя сілы, рэгулярна выдаюць "Літаратурную старонку". Пішуць аб тым, што блізкае і дарагое сэрцу.

Самабытны почырк у дырэктара Кунцаўскай СШ Анатоля Курыльчыка, яго калегі з Сіняўкі Уладзіміра Дзікевіча, намесніка старшыні раённага Савета народных дэпутатаў А. Жукоўскага. На некаторыя вершы гэтых паэтаў самадзейны кампазітар М.Кашуба напісаў музыку. "Свае", раённыя песні гучаць на святах ураджаю

/Наш кар./.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ

***У сувязі са смерцю народнага дэпутата Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў В.М. Гурлені, выбранага ад Ленінскай выбарчай акругі № 236, на падставе арт.55 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах народных дэпутатаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь", прэзідыум абласнога Савета народных дэпутатаў ВЫРАШЫЎ:***

***назначыць выбары народнага дэпутата Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў па Ленінскай выбарчай акрузе № 236 г.Жодзіна на 12 снежня 1993 года.***

■ Падзеі — сто гадоў

## ПРЫШЭЛЕЦ З КОСМАСУ

Шмат легенд і паданняў тоіць у сабе зямля Стаўбцоўшчыны. Задайся толькі мэтай, распытай старажылаў -- і перад табой раскрыецца сапраўдны скарб мінуўшчыны. Штосьці падобнае давялося пазнаць і мне -- пра тое, як калісьці ў Заброддзі каля Дзераўной упаў метэарыт, неаднойчы распавядалі мне дзядзькі з гэтай вёскі. Але ў расказах кожнага з іх не было, так бы мовіць, пэўнай гістарычнай фактуры, якая б дазваляла гаварыць аб гэтай падзеі больш упэўнена і, я б сказаў, праўдападобна.

Таму прыйшлося звярнуцца да гістарычных крыніц, некаторых дакументаў, каб легенду гэтую крыху рассакрэціць.

А было ўсё вось як.

Улетку 1893 года жыхар Заброддзя Мікола Шумчык будаваў хату. Увіхаўся дзень пры дні цэлае лета, але ўсё адно работы на будоўлі заставалася шмат. Да таго ж, жнівень і пачатак верасня -- час жніва і ўборкі бульбы -- аднялі нямала дзён. І вось, калі з гаспадаркай крыху ўправіўся, узяўся ён за будоўлю зноў, а каб работа ішла хутчэй /надта ж хацелася яму перабрацца ў новую хату да надыходу халадоў/, папрасіў дапамагчы суседзяў Фаму Дзям"янку і Станіслава Камара.

Як звычайна, узяліся на золаку 22 верасня вяскоўцы за працу. Работа ішла так сабе, -- са сну, як вядома, асабліва не разгонішся, -- але ў хуткім часе іх увагу прыцягнуў надзвычай моцны гул. Па сённяшнім часе яны, магчыма,і не надалі б гэтаму асаблівага значэння, -- ці мала цяпер на вёсцы рознага роду тэхнікі, -- але тады такое гудзенне не пакінула раўнадушнымі трох будаўнікоў. Глянулі яны ўдалячынь і анямелі: на небасхіле свяціўся нейкі шар і, з кожным імгненнем павялічваючыся, ляцеў прыкладна на вышыні хмар у бок вёскі. Бліснуў агонь, пачуўся рэзкі гук -- і шар "выстраліў" прама ў хату Міколы. Ад такой нечаканасці мужчыны, натуральна, разбегліся хто куды, чакаючы горшага. Аднак навокал стаяла цішыня. Тады вяскоўцы трохі асмялелі і накіраваліся назад у хату. І якое ж было іх здзіўленне, калі замест чагосьці незвычайнага ўбачылі ў паўзмроку звычайны... камень.

Аб "забродскім" дзіве доўга хадзіла пагаласка па навакольных вёсках, пакуль гэтым фактам не зацікавіліся мясцовыя ўлады і не перадалі вестку аб ім у цэнтр губерні -- Вільню /Заброддзе ў канцы XIX стагоддзя ўваходзіла ў склад Ашмянскага павета Віленскай губерні/.

Апякун Віленскай навучальнай акругі А.Сергіеўскі, калі гэтая навіна дайшла да яго, не стаў марудзіць, забраў у мужчын метэарыт і перадаў яго прафесару Адэскага універсітэта Р.Прэндзелю. У Адэсе ад яго адрэзалі невялічкі кавалачак для даследавання, а асноўную масу аддалі Сергіеўскаму. Аднак той неўзабаве памёр. Вопіс метэарыта на аснове даных Прэндзеля трапіў у каталог ужо пасля смерці апекуна, а месцазнаходжанне яго засталося невядомым. Шматлікія пошукі на працягу многіх гадоў не прынеслі ніякага выніку.

І вось толькі пасля Вялікай Айчыннай вайны прафесар Вільнюскага універсітэта Далінкявічус выпадкова выявіў сярод найбольш каштоўных экспанатаў кафедры геалогіі універсітэта, якія ён, ратуючы ад нямецкіх акупантаў у час вайны, перанёс да сябе на кватэру, метэарыт надзвычай падобны на забродскі. Праўда, значыўся ён у вопісах пад літоўскай назвай "Пабрадзе". Калі ж навукоўцы параўналі знаходку з фотаздымкамі, якія ў свой час зрабіў у Адэсе Р.Прэндзель, то выявілася, што "Пабрадзе" і ёсць "Заброддзе". Тое ж пацвердзілі і даследаванні рэчыва метэарыта -- састаў аказаўся той жа.

Такім чынам, дзякуючы шчасліваму збегу абставін метэарыт, які носіць назву вёскі Заброддзе, набыў сваё сапраўднае імя і зараз выстаўлены ў экспазіцыі музея Вільнюскага універсітэта, а ягоны муляж знаходзіцца ў Беларускай камісіі па метэарытах.

СЯРГЕЙ ГАЛОЎКА, краязнаўца.



## АКТ ВАНДАЛІЗМУ

**Два месяцы назад у Слуцку на месцы, дзе запланавана будаўніцтва Спаса-Праабражэнскага сабора /быў такі да рэвалюцыі -- знішчаны ў 30-я гады/, мітрапалітам Мінскім і Слуцкім, патрыяршым экзархам усяе Беларусі Філарэтам быў асвячоны крыж. Вакол яго мясцовыя вернікі паставілі адмысловую дашчаную агароджу з варотцамі. Літаральна праз два дні вандалы зламалі варотцы. І вось днямі пягоднікі зноў заявілі пра сябе: ноччу яны поўнасцю вынішчылі палову агароджы разам са слупкамі.**

Міхась АДАМАЎ.

*Ратамская дапаможная школа-інтэрнат добра вядома аматарам спорту. Юныя лёгкаатлеты маюць пераканаўчыя перамогі не толькі на рэспубліканскай арэне: выдатна выступалі яны на сусветных зімовых Алімпійскіх і Еўраазіяцкіх гульнях. Такія дасягненні асабліва радасныя, паколькі ўсе дзеці ў гэтай спецыяльнай школе -- хворыя.*

*Выдатна арганізаваная спартыўная работа дазваляе дзецям не адчуваць сябе ізаляванымі ад грамадства.*

*НА ЗДЫМКУ: паспяхова выступілі на праведзеным нядаўна міжнародным паўмарафоне для інвалідаў выхаванцы школы-інтэрната Д.Калашнікаў, А.Траццякоў, І.Лазарчык.*




Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

■ Крык душы

# ТРАШЧЫЦЬ «МАНЕТНЫ ДВОР»,

## або Хто жадае выкарчаваць лён?

**Фінансава-разліковыя адносіны паміж дзяржавай і льнасеючымі гаспадаркамі склаліся не на карысць апошніх. Аб гэтым разважаюць тыя, хто вырошчвае "паўночны шоўк" у Нясвіжскім раёне.**

***М.САЛЯНІК, старшыня калгаса "Новае жыццё":***

-- Сорак гадоў нам дапамагаў набіраць моц у эканоміцы "манетны двор" (так заўсёды называлі самую прыбытковую галіну вытворчасці -- ільнаводства). Сёння гэты "двор" па сутнасці пад пагрозай разбурэння. Нам стала нявыгадна сеяць шаўкавісты, валакністы. Чаму? Уявіце сабе: адзін гектар ільну пры ўраджайнасці льновалакна 11 цэнтнераў і 7,5 -- семя дае выручкі 948 тысяч рублёў. У той жа час гектар цукровых буракоў пры зборы 350--370 цэнтнераў каранёў прыносіць у касу гаспадаркі каля двух мільёнаў рублёў.Скажыце, хто каардынуе гэтыя цэны? Хто думае пра заўтрашні дзень?.. Беларусь не мае бавоўны. Мы можам застацца без портак.

Вось і сёлета плошча пад ільном у нас была 270 гектараў. Мы здалі ўжо на льнозавод у Гарадзею 1.000 тон валакна высокім нумарам (1,15), а грошай не атрымалі ні рубля. Што гэта? Разбурэнне сістэмы льнаводства? Але ж у нас за доўгія гады адпрацавана тэхналогія вырошчвання гэтай культуры. Пабудаваны чатыры карусельныя сушылкі для льнасемя, набыта 10 ільнокамбайнаў.

Бачу, як некаторыя гаспадаркі, хто не вырошчвае лён, жывуць бязбедна. Бо затраты на гектар цукровых буракоў ці збожжавых культур меншыя ў тры разы. Прытым, за буракі яны атрымліваюць жамерыны для жывёлагадоўлі і цукар для насельніцтва. Кожны ведае, што значыць мець цукар. За яго па бартэру можна ўзяць вялікія грошы. А лён? Ён не прыносіць ніводнай кармавой адзінкі для ферм. Дык скажыце: вартая аўчынка вырабу?

***І.КЕНДЫШ, старшыня калгаса "Слава":***

-- Наша гаспадарка слабейшая, чым "Новае жыццё". Там паспелі ў так званы застойны перыяд пабудаваць шмат вытворчых аб'ектаў, жылля, газіфікавалі вёскі. Мы думалі, што лён дазволіць і нам крыху "стаць на ногі", бо фінансавае становішча крытычнае. Дарагое паліва, будматэрыялы, гербіцыды, мінералка.

Цяпер бачым, што клопатаў з ільном шмат, а карысці мала.Пасеялі для "падстрахоўкі" 100 гектараў рапсу. За яго дзяржава хоць дасць камбікорм ды алей...

Да якога часу вёску будуць "заціскаць" цэнавым "ярмом"? Няўжо там, "наверсе", не разумеюць, што лён спрадвеку абуваў і апранаў людзей? За яго мы бралі вялікую валютную выручку. Хіба сёння нам яна не патрэбна? Былі б долары ці нямецкія маркі -- можна тады набываць навейшыя машыны для вёскі, паляпшаць усю інфраструктуру.

Нам кажуць, каб хутчэй разлічваліся з дзяржавай за здачу збожжа, ільну, бульбы, а пералічваць грошы не спяшаюцца. Наш калгас рэалізаваў толькі льнасемя на 45 мільёнаў рублёў, але за яго яшчэ, як і калгасу "Новае жыццё", не заплачана... Хіба так павінны будавацца ўзаемаадносіны? Гэта ж элементарная ісціна: купіў -- заплаці. Не, калі сітуацыя не зменіцца да лепшага, то нам нічога не застанецца, як закрыць дарогу на палеткі такой цудоўнай і патрэбнай культуры, як лён.

***Каментарый намесніка начальніка ўпраўлення райсельгасхарча В.БОЛСУНА:***

**-- На парадак дня паўстала пытанне аб стварэнні асацыяцыі па льну, куды б увайшлі на роўных умовах калгасы, заводы і камбінаты -- усе тыя, хто займаецца вырошчваннем і перапрацоўкай "паўночнага шоўку", выпускам з яго прадукцыі. Бо рэспубліканскае аб'яднанне "Лён" проста не ў сілах вырашыць тыя вострыя фінансавыя праблемы, якія ўзніклі ў апошні час. Гэта ж парадокс: шэраг менш працаёмкіх культур (цукровыя буракі, ячмень, жыта, пшаніца) даюць прыбытак вышэйшы, чым лён.**

**Вузкае месца -- крэдытаванне галіны. Нясвіжскі льнозавод не мае грошай, каб разлічыцца з пастаўшчыкамі. Аршанскі льнокамбінат, куды пастаўляецца валакно, сам "падграбае" прыбыткі. А што дастаецца таму, хто вырошчвае лён? М.Салянік і І.Кендыш аб гэтым сказалі даволі яскрава.**

Канстанцін ВАЛНЭЎСКІ.

# ДЗЕНЬ ДОНАРА – ТРАДЫЦЫЯ

"Увага! Для выратавання чалавека патрэбна кроў..." На Случчыне шмат людзей, якія, пачуўшы такія словы, спяшаюцца на дапамогу незнаёмым людзям. Тут, у прыватнасці, стала традыцыяй праводзіць дні донара. Яны адбыліся на цукрова-рафінадным камбінаце і сыраробным заводзе. Ахвотна прыходзілі здаваць кроў працаўнікі фабрыкі мастацкіх вырабаў, камбіната хлебапрадуктаў, на заводах "Эмальпасуда" і "Модуль", геолагаразведачнай экспедыцыі.

-- У нас створана брыгада з васьмі чалавек для выезду на прадпрыемствы, дзе праводзіцца забор крыві, -- зазначыў загадчык аддзела станцыі пералівання крыві Я.Пратасеня.

Кіраўнікі прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў робяць усё, каб у такі нялёгкі час аказаць донарам падтрымку. Напрыклад, на маслазаводзе кожнаму з іх выдзелена па дзве тысячы рублёў.

(Наш кар.)

■ Лёсы людскія

# «СВАТАМІ БЫЛІ ГОРА ДЫ КАХАННЕ»

У той дзень Лідзія Колесень пасвіла кароў. У Засвяціцы, як і ў многіх вёсках Бярэзінскага раёна, рагуль засталося няшмат, і наглядаць за статкам было нескладана. Ды і ўнук -- добры памочнік.

З узгорка вёска ляжала як на далоні. Лідзія Васільеўна ведае тут кожную сцяжынку, кожнае дрэўца. Усё жыццё прайшло ў роднай вёсцы. Тут вырасла, за мясцовага хлопца замуж пайшла, дзяцей выгадавала. Вось ужо ўнукаў і праўнукаў дачакалася.

Разраслося сямейнае дрэва Івана Рыгоравіча і Лідзіі Васільеўны. Пяцёра дзяцей, дванаццаць унукаў, восем праўнукаў...

Рэдка збіраюцца ўсе разам у бацькоўскім доме, хоць жывуць блізка: сыны -- у Беразіно, дачка -- у Прудку. Але скардзіцца на няўважлівасць з боку дзяцей грэх: то адзін загляне, то другі. Заўсёды дапамагаюць па гаспадарцы. Любяць прыязджаць на канікулы ў вёску і ўнукі. Да іх прыезду Лідзія Васільеўна рашчыняе цеста.

-- Сыны і ўнукі кажуць: "Твой хлеб -- самы смачны, смачнейшы за магазінны". Раней я ў магазіне ніколі хлеб не купляла, сама пякла, -- распавядае жанчына. -- А цяпер мука стала дужа дарагая, ды і не заўсёды купіш. А магазінны хлеб усё ж танней абыходзіцца. Вось і рашчыняю свой усё радзей ды радзей. Хутка дзеці і ўнукі забудуцца пра яго смак.

"Не забудуцца, -- хочацца мне запярэчыць, -- бо не забыліся ж дарогу да бацькоўскага парога, хоць і аўтобусы ходзяць цяпер радзей, хоць і з бензінам цяжка".

Размаўляю з Лідзіяй Васільеўнай -- і на сэрцы становіцца весялей і святлей. Мяне заўсёды ўражвала і ўражвае жыццёвая моц вясковых беларускіх жанчын у любых нягодах і выпрабаваннях. Не песціў лёс Лідзію Васільеўну. Яна як тая бярозка ў полі, што гнецца пад навальніцамі і вятрамі, ды не ломіцца.

-- Колькі гора пабачыла ў вайну, -- уздыхае жанчына. -- Тату забілі немцы за сувязь з партызанамі. Мне тады дваццаць гадоў было. Арыштавалі амаль усю сям'ю. Дзядулю і сястру бацькі немцы таксама забілі.

На хвіліну-другую мая субяседніца замаўкае (цяжка ўспамінаць такое), а потым працягвае:

-- Ну, Іван (гэта я пра мужа кажу) бачыць, што немцы да нашай сям'і прычапіліся, пашкадаваў мяне, прапанаваў хутчэй за яго замуж выходзіць. Сватамі ў нас былі гора ды каханне.

Цяпер той-сёй даводзіць, што немцы былі ледзь ці не дабрадзеямі для беларускага народа. І гэта -- пры жывых сведках! А што будзе, калі відавочцаў зусім не застанецца? І ўсё ж я веру: праўда, што золата, -- і ў гразі блішчыць.

Невясёлы быў "мядовы месяц" Лідзіі Васільеўны і Івана Рыгоравіча, несалодкія былі і першыя гады сумеснага жыцця.

-- Спачатку Івана і яшчэ некалькіх хлопцаў сілком забралі ў самаабарону, -- расказвае субяседніца. -- Ды не сталі яны там доўга служыць. Як толькі надарыўся зручны выпадак, уцяклі ў партызаны. Давялося і мне перабрацца бліжэй да партызан: спачатку ў Молатаве жылі, потым -- у Бары. У мяне дачушка нарадзілася. Кожны дзень сэрца трымцела: як зберагчы ад куль, хвароб, голаду? Зберагла. А пасля вайны сыны пайшлі. Як нялёгка было разжывацца! Ды, як кажуць, вочы баяцца, а рукі робяць. Колькі гэтыя рукі работы перарабілі, ніякі бухгалтар не падлічыць. Стараліся, працавалі ад рання да змяркання, як і ўсе вяскоўцы, узняліся на ногі.

Размова пераключаецца на сённяшні час. Трэба не скардзіцца на праблемы, не плакаць у камізэльку, а больш і лепш працаваць, лічыць Лідзія Васільеўна. І гэтае пажаданне ў першую чаргу датычыцца палітыкаў. Неабходна прымаць такія законы, каб той, хто лепш працуе, і зарабляў больш. А цяпер вытворца прадукцыі зарабляе менш, чым камерсант, які прадае і перапрадае вынікі чужой працы. Пра ўвагу да вёскі шмат гаворыцца. А бульбу калгасу выгадней пакінуць у зямлі, чым выкапаць і здаць нарыхтоўчым арганізацыям. Дзе ж логіка?

Падобныя пытанні хвалююць сёння многіх вяскоўцаў. Але людзі спадзяюцца, што ў рэшце рэшт жыццё ўсё паставіць на сваё месца, маўляў, "перажылі вайну -- перажывём і "перабудову".

Так, шмат нягод за плячыма людзей старэйшага пакалення. Вельмі хацелася б, каб хоць восень іх жыцця была спакойная.

...Вялікае шчасце пачынаецца часам з маленькай радасці. І мне ўяўляецца будзённы малюнак: Лідзія Васільеўна Колесень без аніякіх праблем купіла мукі патрэбнага гатунку і рашчыніла цеста. А за сталом весела гамоніць вялікая сям'я: дзеці, унукі, праўнукі. Бо матулін хлеб самы смачны, матуліны рукі самыя ласкавыя.

Гертруда ШЧУР.

# НЕ РАЗЛЯЦЕЛІСЯ З ГНЯЗДА

Аднойчы зайшла гаворка са старшынёй праўлення калгаса "Юркавічы", што на Лагойшчыне, аб земляробах, на чыіх плячах трымаецца сёння гаспадарка. Першымі ён назваў Голубаў. І дадаў: "Нібы тыя птушкі, верныя свайму гнязду, не разляцеліся па свеце і нашы Голубы, а засталіся на бацькаўшчыне".

Напачатку выдалася сустрэцца з самым малодшым з Голубаў -- восьмым сынам Ганны Францаўны і Івана Антонавіча. З раніцы яго "КСК-100" акуратна рэжа зялёнку на падкормку жывёле, а затым Паўла можна бачыць на прэс-падборшчыку. Ну, а калі траншэі і павеці запоўнены кормам, яго трактар у счэпе з плугам кроіць зямлю тлустымі пластамі або цягне за сабой сеялку, з якой раўнамерна кладзецца ў глебу адборнае зерне.

А калі вырастаюць буйныя каласы -- эстафету на хлебнай ніве прымаюць яго браты. Самы старэйшы з іх -- Пятро. Лёс распарадзіўся так, што жыве ён у Мінску. Але летам, у перыяд уборкі, бярэ водпуск і едзе ў свой калгас. Тады сярэдні з братоў, Іван, перадае яму свой грузавік, а сам -- за штурвал камбайна. Сем гадоў ужо так. І амаль заўсёды ў перадавіках. Іван практыкаваўся ў старэйшага брата Мікалая, а зараз сам вучыць пляменніка Максіма: той прыязджае на канікулы ў вёску і гатовы выконваць любую работу, звязаную з тэхнікай.

-- Вось дзе ўжо тэхнічныя душы, -- жартуе маці Ганна Францаўна. -- І ў каго толькі ўрадзіліся? Бацька іх шавецкім рамяством валодаў і сталяром адмысловым быў. Хату ўласнымі рукамі зладзіў, на бацькавай сялібе будаваліся. Вокны стараўся прарубіць на ўсход, каб цэлы дзень сонца ў хаце свяціла. Сад -- таксама яго рук справа. Я і на сыноў не скарджуся. Ганаруся, што людзі паважаюць іх за працу. Радуюся, што выраслі да зямлі здатныя, працавітыя.

Сорак пяць гадоў пражыла Ганна Францаўна з Іванам Антонавічам Голубам. Шмат чаго прыйшлося ім зведаць. Але такое ўжо яно -- сэрца маці: ніколі не ведае спакою. Сёння жанчына не менш хвалюецца за ўнукаў. Якую жыццёвую дарогу выберуць, кім стануць? Вось Зоя, дачка Мікалая. Любоў да тэхнікі ў Зоі ад бацькі. Не выпадкова на школьных канікулах дзяўчынка не раз у якасці памочніка камбайнера дапамагала яму на жніве. А любоў да жывёлы -- ад маці. Ніна Пятроўна каля дзесяці гадоў даглядае калгасных коней.

-- І як вы ўпраўляецеся з такім табуном? -- пытаюся ў жанчыны.

-- Лецысія, Марыяна, Хаймэ, -- у кожнага свая мянушка. Адзін мужаў трактар -- сорак конскіх сіл, -- усміхаецца жанчына, -- толькі яго тэхніка патрэбна калгаснаму полю, а мая жывёла -- вяскоўцам для апрацоўкі прысядзібных участкаў, перавозкі сена, дроў, іншых грузаў. Адна ў мяне праблема з гадаванцамі -- прывучыць іх да вупражы ў санках, калёсах. У перыяд "вучобы" прыходзяць на дапамогу муж, дачка з сынам.

"Голубы -- дружная сям"я", -- кажуць пра іх у вёсцы. Я не раз задавала ім адно і тое ж пытанне: чаму засталіся ў сваёй роднай Крокве? Павел адказаў за ўсіх: "Армейскую службу я нёс на Поўначы. Прыгожа там, але холадна. Каля бацькоўскага дома цяплей".

Вольга МАЗГО.




*Шмат фірм, якія гарантуюць бяспеку, створаны ў Беларусі. Найбольш вядомая з іх -- мінская "Сюртэ" названа ў гонар вядомых французскіх дэтэктываў мінулага стагоддзя. Супрацоўнікі "Сюртэ" забяспечваюць ахову турыстычных груп, мерапрыемстваў, памяшканняў. Яны суправаджаюць каштоўныя грузы па ўсіх наземных, водных, паветраных дарогах краін Садружнасці. Тут жа можна атрымаць высокакваліфікаваную юрыдычную дапамогу.*



**НА ЗДЫМКАХ:** эмблема службы "Сюртэ"; супрацоўнікі Алег ЗОСІМАЎ і Міхаіл НІКАНЮК накіроўваюцца на заданне; Алег ФАМІН -- адзін з самых маладых агентаў "Сюртэ".

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.



■ Раённыя выставы

# ДУКОРСКІЯ МАСТАКІ

Свежасцю і разнастайнасцю прыродных фарбаў, цеплынёй восені павявае ад карцін дукорскіх мастакоў Анатоля Абразоўскага і Ігара Говара.

Выстаўка-продаж іх твораў працуе зараз у гарадскім Доме культуры ў Мар"інай Горцы.

Увабралі ў сябе багатыя восеньскія фарбы работы "Залатая восень", "Залатыя бярозы". Як быццам цяпло сонца пераходзіць у цёплыя вераснёўскія тоны, якімі напаўняецца прырода ў гэтую пару года.

Непаўторнасць вобразаў далёкіх старажытных гарадоў -- Пскова і Волхава ў работах з такімі ж назвамі. Глядзяцца ў люстэркавую роўнядзь вады дрэвы ў карціне "Вярба".А вось сярод бясконцых азёр і лясоў патануў у прыроднай прыгажосці хутарок. "Лясная затока" вабіць яркасцю, летняй свежасцю. Блакіт неба зліваецца з сіняй ракою ў "Паводцы". Застылі ў лёгкім гойданні хваль лодкі ў рабоце "Перад навальніцай".

Работы разнастайныя, але ва ўсіх палотнах замілаванасць прыродай, роднай зямлёю.

Хутка знайшоўся пакупнік на першую, самую дарагую карціну. Безумоўна, каштоўнасць мастацкага твора не мае матэрыяльнай меркі. Тым не менш, у наш галодны час багацце духоўнае не ў кожнага адступае на другі план. Але і тут -- як для каго.

Наведвальнікаў на выставе пакуль што не густа. На жаль, новы Дом культуры не мае сваёй выставачнай залы, і работы знаходзяць прытулак у калідоры бібліятэкі. Напярэдадні выстаўляліся творы мастака Міхаіла Высочына і фотамастака Уладзіміра Кавальчука. Наведвальнікі былі ў захапленні ад іх работ. Яны, як і многія знакамітыя мастакі, пачыналі з адкрытага непрызнання іх таленту. І ў пару іх творчай маладосці размовы пра выставы наогул не ішлі.

Хто ведае, які вялікі шлях чакае нашых землякоў?

Між іншым, Ігар Говар па адукацыі архітэктар, захапленне мастацтвам у даным выпадку прафесійнае. А вось Анатоль Абразоўскі -- самавук. Да таго ж ён займаецца разьбой па дрэву. Думаецца, што хутка мы зможам убачыць і гэтыя яго работы. Застаецца дадаць, што Ігар і Анатоль працуюць у мастацкай майстэрні Дукорскага ДК. І гэтая выстава -- першая ў іх жыцці.

Аліна ГРЫШКЕВІЧ.

# НІБЫ Ў РОДНЫ ДОМ

Калі заходзіш у Пухавіцкую дзіцячую бібліятэку, ствараецца ўражанне, што трапляеш у музей народнай творчасці, бо пачынаецца яна з невялікай залы, у якой экспануюцца работы юных умельцаў -- пастаянных чытачоў бібліятэкі. Не адарваць вачэй ад малюнкаў васьмікласніцы Наташы Лемязы. Матывы яе карцін -- казачныя. Дзяўчынка бачыць свет па-свойму -- у харастве і прыгажосці. А ад нацюрмортаў, здаецца, пах чуеш. На другой сцяне яшчэ адна выстава -- "Творчасць нашых чытачоў". Тут і макрамэ, і вязанне карункаў, пляценне, вышыўка, разьба па дрэву, інкрустацыя і інш. Цікавыя работы прадставілі юныя чытачкі Света Грын, Вольга Рак, Кацярына Кользун, Лена Бычкоўская і інш. Іх умелыя рукі, без перабольшання можна сказаць, твораць цуды. Сюды кожны падлетак прыходзіць нібы ў родны дом.

Гэтая культасветустанова сваю задачу бачыць у тым, каб адрадзіць, захаваць і перадаць новым пакаленням традыцыі народнай творчасці, багацце мастацкага слова. Прыцягвае ўвагу наведвальнікаў стэнд "Ёсць на зямлі такі куток -- мая радзіма Пухаўшчына", дзе сабраны кнігі, асобныя матэрыялы пра знаходжанне ў гэтым раёне народных песняроў Якуба Коласа і Янкі Купалы. Творча працуе пры бібліятэцы клуб "Кругагляд". Шмат змястоўнага і цікавага дзеці пачулі на занятках, прысвечаных пісьменнікам Янку Маўру, Сяргею Новіку-Пяюну, свайму земляку Васілю Гарбацэвічу і інш. Вялікую актыўнасць у юных чытачоў выклікаў міні-конкурс на лепшую замалёўку пра свой родны горад.

Ды ці пералічыш усе мерапрыемствы, на якіх работнікі бібліятэкі вучаць юных пухаўчан успрымаць і разумець сапраўднае мастацтва, выхоўваюць у іх мастацкія густы, любоў да роднага слова.

Застаецца пашкадаваць, што дзіцячая бібліятэка ў такім вялікім горадзе, як Мар'іна Горка, туліцца ў трохпакаёвай кватэры.

Уладзімір КОБРЫН.

# ЕЩЕ РАЗ ОБ ИНТРИГУЮЩЕМ ИНТЕРВЬЮ И ЖУРНАЛИСТСКОЙ КОНЪЮНКТУРЕ

В "НГ" за 29 сентября с.г. (№189) опубликовано интервью ее главного редактора Иосифа Середича с Председателем Верховного Совета Республики Беларусь Станиславом Шушкевичем под заголовком "У прыстойным грамадстве толькі высокамаральныя людзі могуць мець дачыненне да ўлады". В нем, в частности, делается попытка провести экспромтом журналистское расследование в связи со слухами о доставке мебельного гарнитура самолетом из Китая, на борту которого находилась делегация во главе с руководителем белорусского парламента. С поиска "истины" и начали диалог два почтенных собеседника. Пространные пассажи Середича имели прежде всего оттенок сожаления или даже возмущения фактом, что высшее должностное лицо государства "вынуждено" посещать великую державу рейсовым самолетом, в котором вместе с официальной делегацией из КНР был доставлен "таинственный" груз.

Внешне как будто неожиданный и даже трогательный из-за своей "наивности" вопрос бывшего партжурналиста, выпускника Академии общественных наук при ЦК КПСС Иосифа Середича (партруководство знало, кого направлять на повышение квалификации!) о принадлежности доставленного груза вызвал у высокого собеседника "нервную дрожь". В свойственной ему манере председатель парламента опроверг очередные "сплетни" вокруг себя и вместе с удовлетворенным главным редактором, как само собой разумеющееся, перевел разговор на стратегию развития политической ситуации в Беларуси. Из такого нестандартного начала интервью читатель, безусловно, должен был твердо усвоить, что имеет дело с искренними и честными радетелями за справедливость и благополучие народа республики.

Беседовавшие рассуждали о якобы имеющемся кризисе исполнительной власти, медлительности и даже нелегитимности правительства, избранного Верховным Советом, в том числе и ими. Как "истые демократы", они не забыли упомянуть о "безнравственности" некоторых правительственных персонажей, которые все еще добровольно не покидают консервативный орган.

Что ж, остается лишь сожалеть о незадачливости и конъюнктурности творчества Иосифа Павловича, не говоря о всей глубине понимания им смысла происходящих перемен.

На фоне всеобщего раздрая и хаоса в большинстве регионов бывшего Союза ССР нашим доморощенным "патриотам" уж сильно не нравится осмотрительность и постепенность действий правительства, что как-то обеспечивает хотя бы относительную, но все-таки стабильность в Беларуси. Что касается пассажа И.Середича по поводу журналистской нравственности ("журналіст павінен баяцца аднаго -- хлусні"), то он не только у меня, но и у многих читателей вызывает простую человеческую иронию.

Я далек от желания каким-то образом давать отчет перед участниками интервью в связи с упоминанием своей фамилии, но считаю уместным заявить: я никогда не использовал самолеты в личных целях, от отца и матери не отрекался, "вольво" и прочих там "мерсов" не имел и не имею, на работу и обратно хожу пешком, загородных коттеджей не проектировал и не строил. Но в то же время, пожалуй, могу гордиться постоянным перечислением достаточно крупных сумм в детский дом, в котором воспитывался, что поступают после соответствующих решений суда от некоторых "писателей", делающих себе карьеру на не всегда проверенных фактах.

Не стану подыгрывать спекулирующим на патриотизме, поддерживать провокаторов, стремящихся вызвать искусственный "кризис ветвей власти" или "противоборство властей". Слишком свежа кровь, пролитая по этому незатейливому сценарию у наших соседей...

Подчеркиваю: я недостаточно близко знаком с Середичем, чтобы обсуждать с ним вопросы, связанные с моими служебными обязанностями, либо по-обывательски сплетничать, равно как и помогать в его изысканиях, не всегда близких к журналистике. А чтобы ему неповадно было покушаться на честь и достоинство гражданина, используя для этого служебное положение редактора и народного депутата, мне, видимо, придется в очередной раз обратиться к правозащитным инстанциям.

Геннадий ДАНИЛОВ,
народный депутат Минского областного Совета.

**Кстати**

***Г.И.Данилов, передавая материал для опубликования в газете, заявил, что он обращается в суд с иском о защите чести и достоинства. Ранее он уже выиграл два процесса в споре с газетой "Свобода", которая компенсировала нанесенный ему моральный ущерб суммами в 100 тысяч и 1,2 миллиона рублей, а фотокорреспондент Грищ -- 200 тысяч рублей. Деньги Г.Данилов перечислил детским домам Минской области. Коль так дело пойдет и дальше, то детские дома будут иметь неожиданную солидную поддержку.***

